ЦАНА 50 К.



# НАВІНЫ

14 ЧЭРВЕНЯ, 4'1990

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

Фота Кастуся Войткі.



Гэтую чатырохгадовую дзяўчынку, у вачох якой нібыта сканцэнтраваныя боль і туга ўсяго чалавецтва, завуць Кася. Пяць месяцаў таму з дыягназам "востры лімфабластны лейкоз" яе прывезьлі ў Менскі дзіцячы гэматалагічны цэнтар з Асіповічаў.

Худзенькія Касіны ножкі ня слухаюцца сваёй маленькай гаспадыні. Нават сесьці на ложку яна можа толькі з мамінай дапамогай.Пухліна на сьпіне сьціснула сьпінны мозг дзяўчынкі. Пад час хіміятэрапіі пухліна трошкі спадае, а ў 10-дзённыя перапынкі паміж прыёмам лекаў павялічваецца гэтак, што яе відаць праз адзеньне.

З-за таго, што імунныя функцыі арганізму практычна адсутнічаюць, пакуты дзіцяці яшчэ ўзмоцненыя трывалымі прастуднымі інфэкцыямі. Некалькі дзён таму Кася перастала кашляць, але ў палату падсялілі новую пацыентку, таксама застуджаную, і вось Кася зноў хварэе на прастуду. Яе трэба было б ізаляваць у стэрыльным блоку, але такога ў дзіцячай гэматалагіі проста няма – бракуе памяшканьняў. Няма нават палаты інтэнсіўнай тэрапіі, бо і яе вымушаныя былі заняць пад ложкі для новых маленькіх хворых.

(Матэрыял пра Менскую дзіцячую гэматалогію чытайце на стар. 4–5)

# КАЛІДОРЫ САМОТЫ

**– Не разумею, на якой падставе яна зробіцца лідэрам. Рэальных умоваў дзеля гэтага сёньня няма. Прэтэнзіі на лідэрства – чысты ідэалізм. Сёньня . . . Але само права на лідэрства, мяркую, адмаўляць ня варта.**

– На маю думку, каб Сусьветнае згуртаваньне беларусаў паўстала жыцьцядзейным і актыўным, у ягонай праграме павінна быць закладзена ідэя незалежнай, сувэрэннай Беларусі. Нас павінна яднаць нацыянальная ідэя: "Мы – беларусы". (Хоць адразу хачу ўдакладніць: правадзейнымі сябрамі згуртаваньня мне бачацца людзі розных нацыянальнасьцяў, якія працуюць на беларускую ідэю, спрыяюць развіцьцю нашай культуры, мастацтва, літаратуры). Дагэтуль жа кантакты з сусьветам ішлі пад дэвізам "Мы – савецкі народ", і мяне ў Таварыстве дружбы загадчыца аддзела прэсы ды інфармацыі Нэлі Ермалюк магла абурана перапыніць: "Да перестаньте вы говорить на этом белорусском языке! Противно слушать!". А з Таварыствам "Радзіма" актыўна кантактуюцца зусім ня тыя беларусы, якія вывезьлі ў замежжа родную мову і нацыянальную сьвядомасьць як найбольшы свой скарб.

**– Ну, наконт роднай мовы і нацыянальнай сьвядомасьці і тут, на Бацькаўшчыне, сітуацыя ня зь лепшых.**

– Вось і атрымліваецца, што без актыўнай беларусізацыі ў Рэспубліцы сорамна вытыркацца за межы. Мы ня можам сёньня запрасіць дзяцей з-за мяжы, каб яны лета правялі ў беларускамоўным дзіцячым асяродзьдзі, бо дзе яго ўзяць? (Да таго ж, трэба сваіх кудынебудзь везьці далей ад радыяактыўных прадуктаў). У нас бракуе лемантароў для школак, настаўнікі пачатковых класаў – дэфіцыт. Дык чым падзелімся? Што мы пакажам турыстам, суайчыньнікам? Хатынь, Курган Славы і пустыя паліцы крамаў? І гэта Рэспубліка, якая за свае ваенныя ахвяры зрабілася краінай–заснавальніцай ААН?! Цяпер пераможаныя немцы могуць кінуць дзясяткі мільярдаў марак дзеля аб'яднаньня з ГДР, а мы – пераможцы – дзелім талоны на цукар. Усе кантакты з замежжам (хоць бы выставы, продаж твораў мастацтва) ідуць праз Маскву, і прыбыткі туды адлічваюцца, а не ў рэспубліканскі бюджэт . . .

Адсюль міжволі напрошваецца выснова: гуртаваць сваіх сыноў і дачок па ўсім сьвеце можа толькі Беларусь, сувэрэнная ў пытаньнях палітыкі, эканомікі, культуры. Гуртавацца дзеля супольнай працы, а не дзеля таго, каб наракаць на лёс. Чарнобыль стаўся мяжой. Мы ня можам выходзіць у сьвет адно з Чарнобыльскай бядой, гэта абразьліва для нацыі. А ў нашым пісьменстве ёсьць схільнасьць да плачу. У гаворцы пра Рагнеду заўсёды згадваем учынены над ёю гвалт, і амаль ніколі, што яна была маці пяці сыноў, сярод якіх Ізяслаў і Яраслаў Мудры, слынныя ў гісторыі постаці. І гады мінулай вайны прынята адназначна перакрываць вісельнямі ды карнымі акцыямі. А было ж і ахвярнае беларускамоўнае школьніцтва. Таму і Чарнобыль, пра які ўрад насьмеліўся загаварыць на чацьверты год трагедыі, не павінен засьціць сьвету абуджэньне народу.

**– Значыць, культурна-настальгічныя кантакты – гэта замала.**

– Вядома! Трэба закасваць рукавы і супольна будаваць беларускі дом. Паездкі сьпевакоў ды танцораў – справа, вядома, патрэбная. Але яшчэ больш пэрспэктыўным уяўляецца мне стыпэндыяцтва ў разьвітых краінах, запрашэньне беларусаў замежжа ў якасьці дарадцаў, экспэртаў, кансультантаў у гандлёвых і вытворчых кантактах з Захадам. Можа, тады мы ня будзем плаціць у нашых крамах шалёныя грошы за турэцкую гарбату нізкай якасьці. І вернем у літаратуру імёны паэтаў–выгнаньнікаў, прааналізуем іхнюю творчасьць бяз крытыка Бумажковай . . . Шлях да гэтага Згуртаваньня, на маю думку, ляжыць праз актыўную рэалізацыю Закону аб мовах, матар'яльнае ўмацаваньне ТБМ, прызнаньне БНФ. А пакуль кожны крок у гэтым напрамку – праз буралом, неразуменьне, няўменьне . . . Ці ж варта цягнуць за сабою іншых, калі сам яшчэ ня ўзьбіўся хоць на сьцежку, калі ня ведаеш нават, што за бліжэйшым паваротам і ці хутка ён будзе?

**– Аднак ідэя Сусьветнага згуртаваньня беларусаў такая прывабная . . .**

– Я гатовая за яе на крыж пайсьці.

● ● ●

Фота Сяргея Плыткевіча.




# АРХІТЭКТАР ГЭНАЦЫДУ

*Зянон ПАЗЬНЯК*

Постаць Ул. Леніна была кананізаваная ў бальшавіцкім пантэоне яшчэ за часы Сталіна. Тады ж мэтанакіравана ствараўся і культ Леніна, што было выгадна яго пераемніку дзеля стварэньня ўласнага культу. Прырода камуністычных культаў, як своеасаблівых сацыяльных сурагатаў рэлігіі (сама марксісцкая ўтопія ўспрымалася па веры – "учение Маркса всесильно, потому что оно верно" – Ул. Ленін), дастаткова добра разгледжана ў літаратуры. Ня будзем на гэтым спыняцца. Адзначым толькі, што ленінскі культ кансэрватары–камуністы па інэрцыі падтрымліваюць і сёньня, апэлюючы да "геніяльнасьці", вычляняючы "лепшыя рысы", уклад у рэвалюцыю (безадносна да маралі і значэньня гэтага "ўкладу" для людзей) і г.д.

У гэтай сувязі даўно насьпеў час паставіць пытаньне аб антылюдзкай дзейнасьці Ул.Леніна і яго акружэньня – Троцкага, Бухарына, Сьвердлава, Дзяржынскага, Уншліхта, Зіноўева, Калініна ды іншых.

У адрозьненьне ад Сталіна Ленін пакінуў масу дакумэнтаў і сьведчаньняў уласнай ініцыятывы і прыналежнасьці да арганізацыі масавых забойстваў, растрэлаў, зьнішчэньня нявінных людзей, арганізацыі канцэнтрацыйных лагераў, тэрору, нечалавечых жорсткасьцяў і гэнацыду. Частка гэтых дакумэнтаў зьмешчаная ў яго поўных зборах твораў, частка апублікаваная нядаўна, як, напрыклад, фэнамэнальны сваім жудасным злачынным цынізмам сакрэтны ліст Ул.Леніна ад 19 сакавіка 1922 году для членаў Палітбюро аб расправе над праваслаўным духавенствам з мэтай запалохваньня Царквы, з прапановай правадыра растраляць "чем больше . . . , тем лучше" і "с такой жестокостью, чтобы они (праваслаўнае духавенства – З.П.) не забыли этого в течение нескольких десятилетий" (Собеседник. – М., 1990, апрель, № 16, с. 7). Паводле гэтага плана і ініцыятывы Ул.Леніна было растраляна звыш васьмі тысячаў чалавек, у тым ліку мітрапаліт Петраградзкі Веніямін.

Знаёмства з фактамі, сьведчаньнямі і дакумэнтамі, зьвязанымі зь дзейнасьцю Леніна з 1917 па 1922 г., раскрывае перад намі тыпаж закончанага макіявэліста, жорсткага і цынічнага, не абцяжаранага ніякімі законамі маралі і права, акрамя права неабмежаванай асабістай улады і палітычнай мэтазгоднасьці. У гісторыі чалавецтва, пачынаючы ад цара Хамурапі, цяжка назваць тырана, які б так шмат, адкрыта і шматслоўна пісаў і сьведчыў пра свае злачынствы. Сталін не пакінуў ані радка пра сваё дачыненьне да гэнацыду. Ленін спрэс пісьмова абураўся, што мала растрэльваюць заложнікаў, прастытутак, сялян, буржуяў, сьвятароў і г.д. Узьнікае нават сумненьне, ці разумеў гэты юрыст па адукацыі, былы памочнік прысяжнага паверанага, што твараў найвялікшае зло? Ці, як цар Хамурапі, забойствы лічыў за найвялікшую годнасьць?

Некаторыя камуністы мяркуюць, што на 28-м зьезьдзе КПСС самы час разгледзець пытаньне пра дзейнасьць Ул.Леніна і яго акружэньня, што бяз гэтага далей "рухацца" немагчыма і г.д. Можа, гэта і выратавала б КПСС на нейкі час ад краху, але ёй трэба тады адмовіцца ад бальшавізму і перайсьці на пазіцыі сацыял–дэмакратыі (так бы мовіць, у запасную траншэю для камуністаў). Да гэтага, аднак, яны не гатовыя. Ды й ня мае яно ўжо значэньня. Пазьняцца лідэры. Народ, што становіцца на шлях свабоды, сам разьбярэцца ва ўсім і вырашыць па-добраму, пачалавечаму.

# КАЛІДОРЫ САМОТЫ

*Наступствы Чарнобыльскай катастрофы шмат хто з нас зьвязвае выключна з Гомельшчынай і Магілёўшчынай – з Нароўляй і Веткай, Краснапольлем і Слаўгарадам, Чэрыкавам і Хойнікамі... ГЭТЫЯ тэрыторыі былі засыпаныя радыяактыўным попелам. ТАМ знаходзяцца зоны "жорсткага" кантролю. ТАМ пачашчаюцца розныя паталогіі ў жывёльным і расьлінным сьвеце, у чалавека. ТАМ існуе рэальная пагроза гэнэтычных мутацыяў. ТАМ нельга жыць, нараджаць дзяцей, выраблять сельска-гаспадарчыя прадукты. ТАМ! Ад няўмольна блізкай радыяцыйнай небясьпекі мы інтуітыўна імкнемся схавацца за прапанаваную схэму, нібыта межы адміністрацыйнага падзелу ўяўляюць сабой штосьці накшталт Вялікага Кітайскага Муру, а нашая ўласная недасьведчанасьць – найлепшая мытня. Тым часам радыяцыйная сьмерць ужо тут, побач.*

Ірына ЛАЗОЎСКАЯ

Менская дзіцячая гэматалогія, разьмешчаная на базе 1-га клінічнага шпіталю, зараз сумна вядомая ня толькі ва ўсім СССР, але і за мяжой. Шуму шмат, а станоўчых зрухаў амаль ніякіх. Занялапы стацыянар апынуўся абсалютна не падрыхтаваны да прыёму, а самае галоўнае, лекаваньня лейкозных хворых – ахвяраў Чарнобыля.

Ужо летась у лістападзе–сьнежні рэзка пабольшала дзіцячых лейкозаў у Менску і вобласьці. Занепакоеная пэрспэктывай успышкі раку крыві, галоўны гэматолаг Рэспублікі, прафэсар Мая Паўлава ўжо тады паспрабавала праз прэсу прыцягнуць увагу грамадзкасьці да трагічнага стану дзіцячай гэматалогіі і была спынена высокім кіраўніцтвам, маўляў: панікёрка, навошта палохаць людзей, ураженыя, яны пачнуць паміраць ад інфарктаў. Бач, як дбаюць пра спакой грамадзянаў! Але колькасьць інфарктаў не павялічылася, а хваля лейкозаў нарастала, і ў самы разгар кампаніі па выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі гэматалагічны цэнтар наведаў 1-ы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў. Пасьля ягонага візіту дзіцячую гэматалогію пашырылі на 30 ложкаў коштам аддзяленьня дзіцячай бронха-лёгачнай паталогіі, якое перавялі ў інфэкцыйны шпіталь.

Зараз у цэнтры 60 ложкаў, якіх ізноў не хапае. Для разьмяшчэньня новых пацыентаў былі вымушаныя ахвяраваць і палатай інтэнсіўнай тэрапіі, і пакоямі, прызначанымі пад абсталяваньне стэрыльных боксаў. Дзеткі да трох гадоў ляжаць з мамамі, астатнія – у залежнасьці ад ступені цяжкасьці хваробы – адны ці з бацькамі. Палаты не прыстасаваныя да прысутнасьці бацькоў, часам маці сьпяць на адным ложку з малымі. Такім чынам, не вытрымліваюцца элемэнтарныя санітарна-гігіенічныя нормы, існуе вялікая пагроза пабочных інфэкцыяў. Дзеці часам паміраюць не ад асноўнай хваробы (лейкозу, анэміі), а ад прастуды.

Прафэсар Паўлава лічыць, што для Менску і вобласьці зараз патрэбна як мінімум 100 ложкаў, стэрыльны бокс на кожных 15 хворых. Толькі пры такой раскладцы магчыма ізаляваць дзяцей на пэрыяд крызісу, зьнізіць небясьпеку другаснай інфэкцыі.

Але ня толькі ад цеснаты пакутуюць пацыенты цэнтру. З пункту погляду прынятых у сьвеце стандартаў ягоная забясьпечанасьць мэдыцынскай тэхнікай практычна роўная нулю. Тут няма ўласнага апраменьвача. Прафілактыку нэйралейкозаў – апраменьванне галавы – робяць у радыялагічным аддзяленьні анкалагічнага дыспансэру. Нават сістэмы пераліваньня крыві тут зьявіліся нядаўна. Дарэчы, значную колькасьць гэтых апаратаў перадаў у дзіцячы гэматалагічны цэнтар беларускі ўніяцкі сьвятар айцец Аляксандар Надсан, які наведаў БССР увесну (і быў цынічна зьняважаны падлеглым апарату друкам, у прыватнасьці, газэтай "Вечерний Минск"). Адзінае, чаго пакуль яшчэ хапае ў цэнтры, гэта савецкіх прэпаратаў для хіміятэрапіі.

Наколькі эфэктыўная хіміятэрапія? Калі на працягу пяці гадоў ня здарыцца непапраўнае, зь некаторых хворых здымаецца лекаваньне. Аднак дыягназ "выздараўленьне" ня пішуць ніколі, пішуць "рэмісія бязь лекаваньня". У СССР лейкоз не вылечваюць, бо няма сучасных клінік, забясьпечаных устаноўкамі для апраменьваньня арганізму вялікай дозай і ўмовамі для наступнай падсадкі касьцявога мозгу. А толькі такім чынам можна зьнішчыць лейкозныя клеткі і аднавіць нармальнае кроватварэньне.

За мяжой лейкоз не зьяўляецца сьмяротнай хваробай, там такія апэрацыі робяць. Нашыя лекары былі б радыя пасылаць дзяцей лячыцца ў Заходнюю Эўропу або ў Амэрыку, але бясьсільныя зрабіць гэта. Двухгадовы курс лекаваньня з наступнай падсадкай касьцявога мозгу каштуе 200 тысячаў даляраў. Шпіталь такіх грошаў, вядома, ня мае. На рахунку Менскага дзіцячага гэматалагічнага цэнтру зараз 200 тыс. рублёў і 50 тыс. даляраў, якія ахвяраваў вядомы амэрыканскі бізнэсмэн Арманд Хамэр.

x x x

Шасьцігадовы Саша Собалеў, які хварэе на лейкоз, трапіў у Цэнтар два месяцы таму. Да гэтага ягоная сям'я жыла ў Барысаве і ў небясьпечныя зоны ніколі не выяжджала. Хвароба пачалася са звычайнага гузака, калі хлопчык выпадкова паваліўся, гуляючы ў пясочніцы. У яго забалела сьпінка, і 10 верасьня 1989 г. бацькі ўпершыню зьвярнуліся да лекараў, а 24 яго ўжо паклалі ў шпіталь з дыягназам тубэркулёзны спандэліт. Пад час знаходжаньня ў Івянецкім касьцёва-тубэркулёзным санаторыі ў закаванага ў гіпсавы гарсэт хлопчыка адняліся ногі. Праз паўтара месяцы, калі ўжо нельга было больш настойваць на памылковым дыягназе, яго перавезьлі на абсьледваньне ў Бараўляны. Аднак за месяц, праведзены там, нічога не зьмянілася. Напалоханыя надзвычай цяжкім станам дзіцяці – на ім засталіся толькі скура ды косьці – бацькі вырашылі на ўласную рызыку выкрасьці сына са шпіталю. Два месяцы яны даглядалі малога дома. Аднак у хатніх умовах кроў не аднавіць.

У Менскай дзіцячай гэматалогіі Собалевых прынялі адразу, але ніякіх абяцаньняў не даюць, бо вельмі шмат было змарнавана часу і нанесена шкоды.

– Самыя жахлівыя тут раніцы. – Кажа Сашава мама Валянціна Собалева. – Увечары глядзіш, дрэнна нейкаму дзіцяці, а раніцай прачынаешся – пусты ложак, памёрла



*Наташы Д. ужо няма. Пасьля 19 дзён знаходжаньня ў рэанімацыі пакуты дзяўчынкі назаўсёды скончыліся. У тэксце артыкула давялося зрабіць страшную праўку: не шасьцёра, а сямёра дзетак памёрла.*

*Да сваёй хваробы Наташа жыла ў Гародні. Яе дыягназ заняў бы тут вельмі багата месца. Мэдыкі былі бездапаможныя. Але, зь іхніх словаў, гэтая сьмерць мае яшчэ адну прычыну – недахоп апаратуры для дыханьня, апэратыўных аналізаў.*

*Першымі ў групе ракавых захворваньняў, якія пагражаюц насельніцтву ў выніку апраменьваньня, стаяць лекозы. Сьмерц ад гэтай хваробы наступае ў сярэднім праз дзесяць гадоў з момант апраменьваньня – значна раней, чым ад іншых віда ракавых захворваньняў*

*На графіку, пабудаваным на падставе выніка абсьледваньня людзей, якія перажылі атамнае бамбардаваньне паказаны адносны час зьяўленьня злаякасных пухлінаў моманту апраменьваньня. Зь яго бачна, што пасьля двухгадова схаванага пэрыяду найперш разьвіваюцца лейкозы і дасягаюць пік праз 6–7 гадоў; потым іхняя колькасьць зьмяншаецца і пра 25 гадоў становіцца практычна роўная нулю. Салідны (суцэльныя) пухліны пачынаюць разьвівацца праз 10 гадоў моманту апраменьваньня*

*(Графік перадрукаваны са зб. Радиация. Дозы, эффекты, риск. – М., 1988*

## УРАД СССР ПРАПАНАВАЎ ПРАГРАМУ ПЕРАХОДУ НА РЫНАЧНУЮ ЭКАНОМІКУ, А

# РАСПЛОЧВАЦЦА БУДЗЕМ МЫ

***На працягу ўсёй 70-гадовай гісторыі СССР эканамічныя і сацыяльныя экспэрымэнты праводзіліся коштам уласных грамадзянаў. Ці стала выключэньнем з правіла прапанаваная Мікалаем Рыжковым праграма пераходу да рынкавай эканомікі? Пра гэта разважаюць сябры творчай групы эканамістаў БНФ, супрацоўнік Інстытута эканомікі АН БССР Павел ДАНЕЙКА і кандыдат эканамічных навук Лявон ЗЛОТНІКАЎ.***

Павел ДАНЕЙКА

Цяперашняя сітуацыя ў СССР характарызуецца абсалютным заняпадам аб'ёмаў вытворчасьці. У графу дэфіцыту перайшлі амаль усе тавары на спажывецкім рынку. Некампэтэнтнасьць ураду канчаткова разбурыла і без таго кволую застойную гаспадарку. Дзяржаўная пазыка дасягнула нечуваных у гісторыі памераў – 400 млрд. рублёў, толькі гадавы працэнт зь яе складае амаль 9 млрд., ды 6 млрд. выдаткоўваецца на "абслугу" зьнешняй пазыкі. Пры такім становішчы ўрад ня можа разьлічваць на давер.

Прапанаваны ў гэтых варунках шлях пераходу да рэгуляванай рынкавай эканомікі мільёны савецкіх грамадзянаў ацанілі адназначна – кінуліся спусташаць крамы. Інтуітыўна спажыўцы зразумелі галоўны сэнс заявы Мікалая Рыжкова – узьняць цэны.

З аднаго боку, прэм'ер СССР мае рацыю: пераход да рынкавай эканомікі сапраўды цягне за сабою зьмены ў структуры цэнаў. Але ж менавіта ўрад, запусьціўшы на ўсю моц друкарскі станок (толькі ў 1989 г. было выпушчана ў карыстаньне 18 млрд. руб., што на 2 млрд. болей, чым за ўсю застойную пяцігодку; у 1991 г. эмісія складзе яшчэ 10 млрд., а вытворчасьць спажывецкіх тавараў застанецца на старым узроўні), прыклаў самыя вялікія намаганьні, каб пераход да рынку суправаджаўся надзвычайнай дарагоўляй. Непасьлядоўнасьць выкладзеных у заяве мераў таксама дае падставу сумнявацца ў шчырасьці дэклараванага курсу.

Умовы існаваньня рынку даўно вызначаныя эканамічнай навукай і пацьверджаныя гаспадарчай практыкай. Першая і асноўная зь іх – прыватная ўласнасьць на сродкі вытворчасьці. Але ж уся дзейнасьць кабінету М.Рыжкова накіраваная супраць прыватызацыі! Адной рукой урад прапануе рынак, а другой – робіць усё магчымае, каб захаваць старую сістэму гаспадараньня. Прэзідэнт з Прэм'ерам, прысягаючы на вернасьць сацыялізму ды прынцыпам "Камуністычнага маніфэсту", фактычна імкнуцца зьберагчы г.зв. "сацыялістычныя заваёвы" – цяперашнія інстытуты ўласнасьці ды ўлады.

Новая фармулёўка пра тое, што ва ўмовах сацыялізму павінна існаваць "разнастайнасьць формаў сацыялістычнай грамадзкай уласнасьці і ўласнасьці грамадзянаў" нагадвае чарговае заклінаньне і ня зможа абудзіць у людзях ініцыятыву ды сапраўднае гаспадарскае пачуцьцё. Як заяўлена з трыбуны Вярхоўнага Савету СССР, "далёка не заўсёды, каб быць гаспадаром, трэба быць уласьнікам". Але чалавек. які не валодае сродкамі вытворчасьці, у прынцыпе ня можа быць гаспадаром. Той, хто страшыць абывацеля жахлівай капіталістычнай эксплуатацыяй, або не разьбіраецца ў справе, або мае свой выразны інтарэс у захаваньні дзяржаўнай манаполіі на эксплуатацыю цэлых народаў.

Другі элемэнт рынкавай эканомікі – разьвітая крэдытна–грашовая сістэма. Ва ўмовах рынку грошы, у пэўнай ступені незалежна ад дзяржавы, ствараюцца банкамі на падставе банкаўскіх укладаў і камэрцыйнага крэдыту (крэдыту таварамі) прадпрыемстваў адно аднаму. Дзеля нармальнага функцыянаваньня гэтай сістэмы неабходна, каб камэрцыйны крэдыт выдаваўся на падставе рэальных рынкавых цэнаў. Такія цэны фармуюцца толькі ў эканоміцы, заснаванай ізноў жа на прыватнай уласнасьці.

Трэці абавязковы элемэнт – адпаведная рынкавым адносінам сістэма дзяржаўнага кантролю эканомікі ды сацыяльнай абароненасьці. Перад тым, як пераходзіць да рынку, неабходна стварыць таварныя і грашовыя біржы, падатковую інспэкцыю, біржу працы і разгалінаваную службу перападрыхтоўкі кадраў. Нічога канкрэтнага ў гэтым кірунку ня зроблена.

Атрымліваецца, што ўрад СССР рыхтуе пераход да рынку, але не зьбіраецца ўводзіць асноўныя элемэнты апошняга: прыватную ўласнасьць, незалежную крэдытна–грашовую сістэму, шматгранныя рынкавыя інфраструктуры. Усе мерапрыемствы фактычна абмяжоўваюцца новай сістэмай цэнаў ды паасобнымі навацыямі, але . . . у межах пільнай аховы адміністрацыйна–гаспадарчага мэханізму. Падвышаў цэны ды прыдумваў усялякія эканамічныя новаўвядзеньні яшчэ Мікіта Хрушчоў, аднак ён быў цьвярозы чалавек, і яму не прыходзіла ў галаву называць гэта рынкавай эканомікай.

Што будзе ў выпадку рэалізацыі праграмы Рыжкова? Нам пагражае нерэгуляваны рост цэнаў, павелічэньне долі "ценевікоў", звыклы дэфіцыт. Сыравінныя вытворчасьці, цэны на прадукцыю якіх прапануецца кантраляваць, будуць пастаўленыя ў няроўныя ўмовы. У сувязі з гэтым павялічыцца небясьпека буйных страйкаў шахцёраў і нафтавікоў. Адбудзецца далейшае абвастрэньне супярэчнасьцяў паміж рэспублікамі ды "цэнтрам". Канцовы вынік – татальны крызіс з усімі магчымымі наступствамі.

Толькі рэальны рынак прынясе росквіт эканомікі і дабрабыт народаў. Гэта надзвычай цяжкі працэс. Давядзецца заплаціць вялікую цану за давер да некампэтэнтных палітыкаў. І чым далей будуць працягвацца ідэалагічныя гульні, тым большая будзе гэтая цана.

Лявон ЗЛОТНІКАЎ

Нельга пагадзіцца з аргумэнтамі ўраду СССР супраць шокавай тэрапіі. Захаваньне ўсталялых вытворчых сувязяў ды дасягнутых аб'ёмаў вытворчасьці – гэта на справе падтрымка "самаеднай" гаспадаркі і шлях да поўнай галечы.

Зараз, напрыклад, зьнізіўся попыт на фосфарныя ўгнаеньні. Але амаль ня зьнізілася іх вытворчасьць. І вось навукоўцы распрацоўваюць тэхналогію вырабу з угнаеньняў абліцовачнай пліткі. Усе пры справе – шахцёры, хімікі, навукоўцы. Устойлівыя сувязі захаваныя, аб'ёмы не зьмяншаюцца, беспрацоўя няма. Але ж нашмат лепш было б выплаціць грошы гэтым шахцёрам, хімікам і навукоўцам проста за так, за тое, што не марнуюць электрычнасьць, паліва, іншыя матэрыялы. Няхай нават на пэўны час яны і засталіся б бяз працы, пакуль прайшлі б перападрыхтоўку і ўладкаваліся б на іншыя вытворчасьці. Гэта нашмат больш эфэктыўна, чым абсурдная ідэя ўсеагульнай занятасьці. Грамадзтва атрымала б – і неадкладна – не павелічэньне аб'ёмаў вытворчасьці (зь якім у савецкай статыстыцы супадае павелічэньне аб'ёмаў выдаткаў), а рэальныя і вельмі патрэбныя тавары.

Ды і як урад СССР можа захаваць аб'ёмы і сувязі, калі ён ужо не кантралюе гаспадарчыя працэсы. Ідзе распад камандавай сістэмы явачным парадкам. Рэспублікі і прадпрыемствы ўжо пераходзяць на рынкавыя адносіны, хаця б на прымітыўны натуральны абмен. Пазіцыя ўраду толькі зацягвае агонію сістэмы, ён хоча, як нехта трапна выказаўся, "адсекчы хвост у некалькі ўдараў". Насуперак жаданьню Рыжкова гэта прывядзе толькі да росту сацыяльнай напружанасьці.

Фактычна, калі адкінуць добрыя развагі пра рынак і разглядаць толькі прапанаваныя захады – у асноўным падвышэньне цэнаў – зрухаў да рынкавых адносінаў няма. Паколькі ранейшая палітыка насычэньня рынку коштам павелічэньня вытворчасьці спажывецкіх тавараў, закупак за мяжой, продажу кватэраў і г.д. правалілася, вырашана дасягнуць гэтай мэты іншым шляхам – узьняць цэны. Збалансуем, маўляў, попыт і прапанову, а тады пачнем пераход да свабодных цэнаў. Але гэта ілюзія. Па-першае, падвышэньне цэнаў зможа "зьесьці" за год прыблізна каля 1/5 наяўных свабодных грошай. А па-другое, – і гэта галоўнае – усталяваныя кімсьці, а ня рынкам, цэны ніколі не ліквідуюць дэфіцыт. Тым больш, што застаецца сістэма дзяржаўнага заказу на асноўныя спажывецкія тавары.

Што да пытаньня пра кампэнсацыю, зьвязаную з ростам цэнаў, дык тут у прынцыпе нельга пагадзіцца з канцэпцыяй Рыжкова. Узровень жыцьця падае. Патрэбныя велізарныя сродкі, каб спыніць (калі гэта яшчэ магчыма) экалагічную катастрофу, аднавіць састарэлыя ўшчэнт асноўныя фонды, узьняць мэдыцыну і адукацыю. Таму марна спадзявацца на рост узроўню спажываньня ў бліжэйшыя гады. Расплочвацца за чужую некампэтэнтнасьць давядзецца нам усім.

І калі ясна, што ўзровень жыцьця зьнізіцца ва ўсіх, дык гэтаксама ясна, што ў тых, хто ўжо знаходзіцца за мяжой беднасьці (менш за 100 рублёў на чалавека, як мяркуюць некаторыя эканамісты), яму няма куды зьніжацца. Таму нельга дапусьціць, каб кампэнсацыйныя надбаўкі рабіліся як надбаўкі да заробку (ці то ў працэнтах, ці то абсалютна). Заробак можа быць і вялікі, але і сям'я можа быць вялікая. Неабходная "падушная" кампэнсацыя да сярэдняга даходу на кожнага чалавека ў сям'і, калі ўрад СССР сапраўды гаворыць пра дапамогу малазабясьпечаным і сацыяльную справядлівасьць. Калі аднолькавая грашовая дапамога на дзяцей будзе выплочвацца і бедным, і заможным сем'ям, дык бедныя, насуперак сьцьверджаньню Рыжкова, ад гэтага ня выйграюць. Наадварот, болей грошай на руках – вышэйшыя цэны (ураду іх ужо не ўтрымаць), і бедныя зьбяднеюць яшчэ болей.

Ніякай яснай логікі ў кампэнсацыйнай палітыцы няма. Затое бачым той самы намэнклатурны падыход, як пры г.зв. "упарадкаваньні" заробку: у нядаўнія гады яго рост у рабочых складаў сярэдне 10%, у ІТР – 40%, потым рост заробку быў замарожаны наогул, але апарату пачалі плаціць у 1,5–2 разы болей. За блытанай праграмай пераходу на рынкавую эканоміку таксама праглядаецца жаданьне не забыць сябе і перакласьці ўвесь цяжар на плечы народу.

# МЕНСКІ ГАРСАВЕТ: НА МЯЖЫ ЗРЫВУ

***Двухтыднёвае процістаяньне дэмакратаў, "цэнтрыстаў" і камуністычных кансэрватараў у Менскім гарадзкім савеце часова ўрэгуляванае. 6 чэрвеня гарсавет пагадзіўся з прапанаванымі пагаджальнай камісіяй кандыдатурамі на пасады Старшыні гарсавета і ягонага першага намесьніка. Старшынёй выбраны сакратар гаркама КПБ Аляксандар Герасіменка, першым намесьнікам – сябра БНФ, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута тэхнічнай кібэрнэтыкі Анатоль Гурыновіч. Месца другога намесьніка засталося вакантнае. Ці варта было ісьці на такі кампраміс, пакажа час. Гэтае інтэрвію з Анатолем ГУРЫНОВІЧАМ было запісанае адразу пасьля вечаровага паседжаньня 6 чэрвеня.***

**"Навіны": У сувязі з тым, што ў гарсавеце існуюць тры практычна роўныя па колькасьці фракцыі: дэмакратычная плынь, "цэнтар" і партгрупа – выбары кіраўнікоў горада мелі пэрспэктыву зацягнуцца на няпэўны тэрмін. Як нарэшце здолелі дасягнуць згоды?**

**Анатоль Гурыновіч:** Хаця ў гарсавеце адбыўся падзел на фракцыі, усё ж найбольшую сілу пакуль мае партгрупа, бо са 185 абраных дэпутатаў 124 члены КПСС. Нягледзячы на тое, што і сярод іх назіраецца палярызацыя, мы вымушаныя лічыцца з гэтым фактам. Іхняя перавага палягае перш-наперш на тым, што яны валодаюць асновамі навукі кіраваньня. За 2 тыдні работы было прынятае пагадненьне аб тым, што Старшынёй павінен стаць прадстаўнік партгрупы, а першым намесьнікам – дэпутат ад дэмакратычнай плыні. І сёньня гарсавет нарэшце пагадзіўся з прапанаванымі пагаджальнай камісіяй кандыдатурамі: Герасіменкі і маёй. Ад пошуку згоды адразу па трох кандыдатурах, разам з другім намесьнікам, мы былі вымушаныя адмовіцца. Камбінацыя з трох прозьвішчаў апынулася б не пад сілу надзвычай узбуджанаму савету і толькі паглыбіла б і так зацягнуты крызіс.

**"Навіны": Вы не баяліся, што атрымаецца, як у Вярхоўным Савеце, калі пагадненьне было крывадушна разарванае?**

**А.Г.:** Вядома, мы ўлічылі гэты досьвед і галасавалі адным бюлетэнем адразу на дзьве пасады.

**"Навіны": Як Вы асабіста ацэньваеце прыняты кампраміс?**

**А.Г.:** Паводле рэгламанту гарсавету Аляксандар Герасіменка абавязаны пакінуць пасаду сакратара гаркама КПБ, але членам бюро ён застанецца.

Што ж датычыцца маёй ацэнкі дэмакратаў і "цэнтрыстаў", дык на сёньня яны пакуль ня здольныя ўзяць на сябе ўсю адказнасьць за разьвіцьцё горада, бо ня маюць дастатковага вопыту. Магчыма, у нас слабы савет, мы не дачакаліся прафэсара Хадыкі, многіх іншых выдатных людзей, якія па справядлівасьці маглі б прэтэндаваць на гэтыя высокія пасады.Пэўная адказнасьць за вынікі сёньняшняга паседжаньня кладзецца таксама і на нашых выбаршчыкаў, якія не праявілі дастатковай актыўнасьці, каб лепшыя прадстаўнікі горада трапілі ў савет. Трэба таксама ўлічваць сітуацыю, якая склалася ў Менску. Практычна ва ўсіх раёнах на кіраўнічыя пасады выбраныя прадстаўнікі партапарату. Такая раскладка сілаў небясьпечная канфрантацыяй. Карацей кажучы, зараз мы ідзем па шляху эвалюцыі, рэвалюцыя тут нам мала ў чым дапаможа.

**"Навіны": У якой ступені дэмакратычная плынь здольная зараз уплываць на рашэньні гарсавету?**

**А.Г.:** У цяперашняй сітуацыі мы можам заблакаваць любое рашэньне. Калі дапусьціць, што са 185 выбраных дэпутатаў усе прысутнічаюць у зале паседжаньняў, дык дастаткова, каб 22 чалавекі пакінулі залу, і кворуму ня будзе. Таму мы зараз працуем вельмі асьцярожна, практычна, на мяжы зрыву, каб ня ўвесьці савет у новы тупік.

**"Навіны": Як будуць праходзіць выбары кіраўнікоў гарвыканкаму?**

**А.Г.:** Аргкамітэт прапанаваў фармаваць выканкам на конкурснай аснове. Калі вы памятаеце, то адным з аргумэнтаў апарату за падвышэньне акладаў савецкім работнікам была спасылка на неабходнасьць узмацненьня інтэлектуальнага патэнцыялу выканкамаў. Гэтую важную мэту і павінна выканаць конкурсная сістэма найму работнікаў. Такі падыход датычыцца як Старшыні, гэтак і загадчыкаў аддзелаў.

**"Навіны": Верагодныя кандыдатуры на пасаду Старшыні гарвыканкаму?**

**А.Г.:** Пакуль цяжка адказаць на гэтае пытаньне; у кожнай фракцыі ёсьць свае прэтэндэнты, але з тактычных меркаваньняў яны не афішуюцца.

**"Навіны": Як намесьнік Старшыні гарсавету, што Вы лічыце найбольш важнай сфэрай дзейнасьці?**

**А.Г.:** На гэтае пытаньне можна адказаць або ў двух словах "планы вялікія", або гаварыць цэлы дзень. Але асноўныя пункты маёй праграмы: пераход да сапраўднай рынкавай эканомікі і дэмакратызацыя жыцьця. Я спадзяюся, што ў хуткім часе нашая незалежная прэса атрымае нарэшце "прапіску" ў Менску і будзе прадавацца ва ўсіх кіёсках горада. Мяркую, што такое рашэньне будзе прынятае ўжо на гэтай сэсіі. Гарсавет таксама зьвярнуўся у Вярхоўны Савет Рэспублікі з прапановай перадаць друкарню ЦК КПБ ва ўласнасьць дзяржавы.

**"Навіны": Якія шанцы мае дэмакратычная плынь на прадстаўніцтва ў камісіях гарсавету?**

**А.Г.:** У нашым савеце мяркуецца стварэньне 19 камісіяў. Мяркую, што дэмакратычная плынь і "цэнтар" будуць мець 60–70 працэнтаў у гэтых камісіях.

**"Навіны": Віншуем з выбраньнем на гэтую адказную пасаду і жадаем плённай дзейнасьці на карысьць Бацькаўшчыны.**

Запісала Ірына ЛАЗОЎСКАЯ.

# КРОНІКА

● ЭСТОНІЯ. "Свабодныя людзі на свабоднай зямлі" — пад такім дэвізам 26—27 траўня ў Таліне адбыўся 2-гі Кангрэс Народнага Фронту Эстоніі (НФЭ). Яго гасьцямі былі і прадстаўнікі БНФ "Адраджэньне". З прывітальнай прамовай на Кангрэсе выступіла старшыня Камісіі замежных сувязяў БНФ Валянціна Трыгубовіч.

● Тыдзень, які завяршыўся 2-м Кангрэсам НФЭ, быў багаты на палітычныя падзеі. Пра свае права на заканадаўчую ўладу ў Эстоніі заявілі яшчэ два грамадзкія фармаваньні. Па-першае, гэта Кангрэс Эстоніі (КЭ). Яго ўзьнікненьню папярэднічала карпатлівая праца — дабрахвотная рэгістрацыя тых, хто мае падставы лічыць сябе грамадзянамі колішняй Эстонскай Рэспублікі або прэтэндуе на гэтае грамадзянства. На думку Мар'ю Лаўрыстын, нельга супрацьпастаўляць КЭ і НФЭ, бо шмат людзей удзельнічаюць у абодвух рухах. Але дэлегатаў Кангрэсу НФЭ вельмі непакоіў радыкалізм КЭ. Нашмат менш увагі дэлегаты надалі Міжрэгіянальнаму савету народных дэпутатаў і працоўных Эстонскай ССР, створаным у Кохтла—Ярвэ.

● "Сумеснымі намаганьнямі народу ствараецца новае грамадзтва. — гаворыцца у новай Праграме НФЭ. — У сакавіку 1990 года ў Эстоніі пачаўся пераходны пэрыяд, які павінен завяршыцца бесьперашкоднай працай новага парламанту — Дзяржаўнага сходу — ва ўмовах поўнага кантролю над эканомікай і тэрыторыяй Эстонскай Рэспублікі". Быў прыняты новы статут (хартыя), паводле якога НФЭ застаўся "заснаваным на грамадзкай ініцыятыве ўсенародным рухам". Кангрэс прыняў спэцыяльную рэзалюцыю пра тое, што на пераходны пэрыяд НФЭ прызнае адзіную заканадаўчую ўладу — выбраны 18 сакавіка Вярхоўны Савет рэспублікі Сп.В.

## ЗА МЕЖАМІ

● АЗЭРБАЙДЖАН. 28 траўня грамадзкасьць Азэрбайджану ўпершыню пасьля 70-гадовага перапынку адкрыта адзначыла гадавіну ўтварэньня Азэрбайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі (АДР). Была адкрытая мэмарыяльная дошка на будынку былога азэрбайджанскага парламанту, ускладзеныя кветкі да магілаў палеглых у "крывавую суботу", у продажы зьявілася літаратура пра першую ў гісторыі мусульманскага Ўсходу рэспубліку.

● Грамадзкасьць Азэрбайджану ў чаканьні дэмакратычных выбараў. Паступова нават самыя гарачыя галовы пачынаюць разумець, што толькі пасьлядоўнае, негвалтоўнае вяртаньне да агульначалавечых каштоўнасьцяў, "эвалюцыйная перабудова" можа быць пакладзеная ў аснову перадвыбарчага блоку дэмакратаў. Пра гэта ішла гаворка на канфэрэнцыі "Палітычнае становішча Паўночнага Азэрбайджану і пэрспэктывы дэмакратычнага руху", якая адбылася 19—20 траўня ў Баку. У ёй узялі ўдзел арганізацыі самых розных колераў і адценьняў: Народны фронт, зялёны рух, сацыял-дэмакраты, лібэрал-дэмакраты, партыя "Новы мусават" ды інш.

● Як вядома, дэмакратычныя выбары, на якіх Народны Фронт разьлічваў атрымаць да 90% мандатаў, былі адтэрмінаваныя ў Азэрбайджане ўвядзеньнем надзвычайнага становішча. Вядомы і сцэнар гэтых падзеяў: хваляваньні ў НКАО — масавыя мітынгі ў Баку — заклікі партыйнага кіраўніцтва да нацыянальнага адзінства — стварэньне з падказкі апарату Нацыянальнага савету абароны — прыезд маскоўскіх гасьцей Прымакова і Гірэнкі — крывавыя армянскія пагромы — увод войскаў. У гэтай сувязі напрошваюцца пэўныя паралелі з апошнімі падзеямі ў Арменіі, дзе зараз ідзе выбарчая кампанія: хваляваньні на мяжы з Нахічэваньню — заклікі партыі да нацыянальнага адзінства — стварэньне пры ўрадзе Савету абароны — прыезд Шаталіна — абстрэл тэрарыстамі вайскоўцаў (нацыянальных меншасьцяў у Ерэване амаль няма). Ці не адзін аўтар у гэтых сцэнароў?

Эльдар ЗЭЙНАЛАЎ.

*15–17 траўня ў Менску знаходзіўся прадстаўнік "Салідарнасьці", кансультант Сэнату Польскай Рэспублікі да справаў усходняй палітыкі Ежы Марэк НАВАКОЎСКІ. Гутарку зь ім прапануем чытачам "Навінаў".*

# БЕЛАРУСЬ — ЗАМКОВЫ КАМЕНЬ ЦЭНТРАЛЬНАЙ ЭЎРОПЫ

**"Навіны": Пан ужо другі раз за апошнія 2 месяцы прыяжджае ў Менск. Якая мэта Вашага цяперашняга візіту?**

**Ежы Марэк Навакоўскі:** Усталяваць кантакты паміж незалежным рухам Беларусі ды незалежнымі аб'яднаньнямі ў Польшчы. Большасьць групаў, зьвязаных з "Салідарнасьцю", лічаць, што адной з нашых найважнейшых задачаў зьяўляецца ўмацаваньне дабрасуседзтва паміж польскім ды беларускім народамі. Да апошняга часу камуністычная намэнклатура шмат гаварыла пра дружбу нашых народаў, але сябравалі толькі людзі, якія маюць прывілеі ды езьдзяць у чорных волгах. Мы хочам зьмяніць гэтую тэндэнцыю ды зрабіць, каб сярэдні паляк і сярэдні беларус добра ведалі адзін аднаго ды разумелі, што ўсё ж нашыя народы зьяўляюцца адным з элемэнтаў новага эўрапэйскага ладу. Другой мэтай майго візіту было спатканьне з кіраўнікамі БНФ ды запрашэньне іх у Польшчу на міжнародную сустрэчу незалежных рухаў Цэнтральнай Эўропы. Каб тэза пра магчымую "лібанізацыю", вайну ўсіх супраць усіх у СССР, высунутая прафэсарам Зьбігневам Бжазінскім, ня спраўдзілася.

**"Навіны": Што гэта за сустрэча, хто яе арганізатары?**

**Е.М.Н.:** На сустрэчы ў Варшаве неабходна ўсталяваць кантакты ды сяброўскія дачыненьні паміж рухамі, якія будуць вырашаць будучыню нашага рэгіёну. Зыходзячы з гэтага прынцыпу, вашынгтонскі "Цэнтар за дэмакратыю" ды "Цэнтар вывучэньня міжнародных праблемаў" пры Сэнаце Польскай Рэспублікі ладзяць улетку гэтую сустрэчу. Прысутнасьць на ёй беларускіх дзеячоў вельмі неабходная, бо менавіта на Беларусі крыжуюцца дарогі з Варшавы да Масквы, з Кіева да Вільні. Беларусь — гэта замковы камень нашага рэгіёну. Мне ўяўляецца, што яе палітычная роля будзе расьці ў бліжэйшы час. І яшчэ адна прычына майго прыезду ў Менск – гэта жаданьне зноў сустрэцца з выдатнымі людзьмі, якія адважна змагаюцца за дэмакратыю. Я зноў ўбачыўся з паняй В.Трыгубовіч, а таксама зь З.Пазьняком, М.Ткачовым, Ю.Хадыкам, М.Собалям.

**"Навіны": Якія ўражаньні ў Вас аб палітычнай сітуацыі на Беларусі?**

**Е.М.Н.:** Палітычная сітуацыя на Беларусі дэманструе ўсе прыкметы пераломнага моманту. Прадстаўнікі дэмакратычнай плыні трапілі ў парламант Рэспублікі ды ў такой значнай колькасьці, што змогуць паўплываць на ход ягонай працы. Гэта паставіла ў новую сітуацыю камуністычных лідэраў. Ігнараваць грамадзкія дэмакратычныя пастулаты надалей будзе цяжка, а хутчэй – немагчыма. Вы стаіце на парозе вельмі цяжкой працы, у якой апазіцыя будзе прывыкаць да правілаў парламанцкай гульні, а камуністы будуць вымушаныя ўлічваць грамадзкія патрабаваньні, выказаныя апазіцыяй. У цяперашняй сітуацыі магчымыя розныя схэмы падзеяў. Але найбольш верагодным уяўляецца зрух перавагі на бок дэмакратычных сілаў. Проста натхняе вобраз маніфэстантаў перад Домам ураду ў Менску, дзе адбываецца сэсія Вярхоўнага Савету БССР. Спакойныя паводзіны ды рашучасьць гэтых людзей, а таксама прысутнасьць сярод іх вялікай колькасьці маладых інтэлігентаў – гэта добрая прыкмета дэмакратычнага руху.

**"Навіны": Вы былі ў нас падчас сакавіцкіх выбараў у Вярхоўны Савет БССР. Як Вы ацэнь-**

**Е.М.Н.:**Назіраецца нейкая стомленасьць беларускай грамадзкасьці пасьля выбараў, на якіх не ўдалося перамагчы цалкам. Трэба, аднак, разумець, што гэта зацішша перад навальніцай. У нас бывала гэтаксама. Палітычным каталізатарам ёсьць няшчасьце, якое здарылася зь беларускім народам – Чарнобыль. Пагроза біялагічнаму існаваньню народу ня можа пакінуць абыякавым ніводнага грамадзяніна Беларусі. Бачым таксама адраджэньне рэлігійнага жыцьця. Гэта вельмі важна, таму што побач з чыста палітычнай дзейнасьцю на парадак дня становіцца праблема маральнасьці. Мяркую, што гэтыя тры пытаньні: рост дэмакратычнага руху, рэлігійнае адраджэньне ды Чарнобыль – будуць вырашаць шлях Беларусі да дэмакратыі.

**"Навіны": А эканоміка?**

**Е.М.Н.:** Усё больш выразна паўстае пытаньне пра будучую эканамічную сістэму. Цяперашняя не спрацоўвае. Цяжка пакуль разважаць пра рыначную гаспадарку ў заходнім стылі. Мяркую, бліжэйшым часам на Беларусі, на Ўкраіне ды ў Расеі народзіцца новая гаспадарчая сістэма. Аднак яе форма застаецца пакуль няясная.

**"Навіны": Як Вы разумееце праблему этнічных палякаў на Беларусі ды беларусаў у Польшчы?**

**Е.М.Н.:** Польская праблема на Беларусі можа прынесьці пэўны клопат. Але гэта натуральна на стыку двух народных рухаў, якія выступаюць за нацыянальнае адраджэньне. Мяркую, што гэты клопат ненадоўга. Таму што па сутнасьці інтарэсы абодвух бакоў падобныя. Гэта – дэмакратычная ўлада ды эфэктыўная гаспадарка. Ня выключана, што камуністычная намэнклатура будзе намагацца пасварыць палякаў ды беларусаў. Ад розуму лідэраў абодвух грамадзтваў будзе залежаць захаваньне прыязных дачыненьяў. Абарона правоў палякаў на Беларусі, дапамога ім літаратурай, усталяваньне кантактаў з нашай краінай – гэта наш маральны абавязак. Сяброўства зь беларускім народам ёсьць абавязкам палітычным. Няма прычыны, каб гэтыя абавязкі былі між сабою супярэчныя. З радасьцю пераканаўся, што большасьць дзеячоў БНФ, зь якімі я размаўляў, выказалі разуменьне палякаў ды жаданьне супрацоўніцтва.

**"Навіны": "Салідарнасьць" мае сваю працяглую гісторыю барацьбы. Мы ж толькі на першым этапе нашага шляху. Як Вы разглядаеце пэрспэктыву развіцьця дэмакратычнага руху на Беларусі?**

**Е.М.Н.:** Нам пашанцавала. Камуністы ў нас былі шмат слабейшыя. Таму нам раней удалося правесьці дэмакратычныя рэформы. Я ўжо пісаў у Польшчы, што дзейнасьць БНФ "Адраджэньне", стыль дзеячоў руху нагадвае мне пачаткі "Салідарнасьці". А яшчэ больш пэрыяд нараджэньня "Саюдзіса": рух за прызнаньне нацыянальных сымболяў, за абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці. Мяркую, вы ўжо здолелі перайсьці крытычную мяжу, за якой ужо немагчыма затрымаць працэс адраджэньня. У вас пачалася "сьпеўная рэвалюцыя".

Праз гісторыю мы доўгі час ішлі разам. Нашыя мовы дазваляюць зразумець адзін аднаго нават тым, хто не вывучаў мову суседа. Палякі зь вялікай сімпатыяй назіраюць за нацыянальным адраджэньнем на Беларусі.

Запісаў Валеры БУЙВАЛ.



■ 1 чэрвеня невядомыя ўзьнялі бел-чырвона-белы сьцяг над будынкам Менскага гарадзкога савету. Сьцяг лунаў над галоўным пляцам гораду роўна 20 хв. 46 сэк.

■ 2 чэрвеня Рабочы Саюз Беларусі (РБС) правёў у Менску мітынг-шэсьце ў памяць растрэлу дэманстрацыі працоўных ў Навачаркаску ў 1962 г. На нарадзе прадстаўнікоў рабочага руху, якая адбылася пасьля мітынгу, абмяркоўваліся бягучыя і стратэгічныя задачы РСБ. Пагаршэньне ўзроўню жыцьця, маштабы радыяцыйнай небясьпекі і меркаванае падвышэньне цэнаў ствараюць у рабочых раёнах выбуховае становішча. У такіх варунках найпершая задача РСБ - дакладная самаарганізацыя і стварэньне мэханізму для авалодваньня стыхіяй масавых спантанных пратэстаў.

■ Старшынёй Магілёўскага гарвыканкаму стаў Сяргей Габрусеў, сябра Сойму БНФ "Адраджэньне". Гісторыя Магілева знакамітая гарадзкімі вольнасьцямі. Віншуем С.Габрусева з выбраньнем на высокую пасаду і зычым яму вярнуць гораду колішнюю славу. Няхай новы старшыня заўсёды памятае, што ў яго былі легендарныя папярэднікі — Стахор Мітковіч, бурмістар Левановіч ды шмат іншых. Трэба быць вартым іх.

■ 3 чэрвеня ў Магілеве адбыўся агульнагарадзкі мітынг, арганізаваны Радай БНФ. На ім выступілі сябры дэпутацкай фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі, народныя дэпутаты БССР Ю.Беленькі, Г.Грушавы, З.Пазьняк, А.Трусаў, а таксама прадстаўнікі Гомельскага страйкавага камітэту. Пасьля мітынгу ў Палацы культуры ВА "Хімвалакно" адбылася сустрэча жыхароў горада з гасьцямі зь Менску і Гомлі. Пазьней у той жа зале прайшло першае паседжаньні ініцыятыўнай групы дзеля стварэньня Магілёўскага страйкавага камітэту.

■ 2 чэрвеня ў Воршы планавалася ўстаноўчая канфэрэнцыя гарадзкога Рабочага камітэту, аднак гарвыканкам адмовіў арганізатарам у памяшканьні. Парткамы шмат якіх аршанскіх прадпрыемстваў (заводаў "Чырвоны барацьбіт", "Лёгмаш" ды інш.) перашкаджалі вылучэньню дэлегатаў на канфэрэнцыю. Нягледзячы на гэта, на агульнагарадзкім мітынгу 3 чэрвеня была ўхваленая мэта стварэньня ў Воршы Рабочага камітэту. Удзельнікі мітынгу выказалі недавер гаркаму партыі, гарвыканкаму і заклікалі працоўных садзейнічаць вываду парткамаў з прадпрыемстваў.

■ У Гомлі сфармавалася і дзейнічае ўніяцкае таварыства — суполка хрысьціянаў грэка-каталіцкага абраду. Зь перамогай на выбарах у гарсавет народнафронтаўскіх кандыдатаў у мясцовых уніятаў зьявілася рэальная пэрспэктыва мець уласную сьвятыню, у якой колішнія ўлады ім адмаўлялі.

■ 1 чэрвеня адміністрацыяй гомельскага вытворчага аб'яднаньня "Карал" з надуманае прычыны звольнены з працы Міхал Кацелюх, старшыня страйкаму прадпрыемства. Рэгуліроўшчык апаратуры быў невыгодны адміністрацыі як палітычна сьвядомы чалавек, які намагаўся перадачы аб'яднаньня ў арэнду працоўным. І ў выніку — звольнены... Хацелася б нагадаць страйкавым і рабочым камітэтам, што іхнім першачарговым абавязкам мусіць быць абарона працоўных ад сваволі адміністрацыі і партыйных органаў.

■ Цэнтар маладзёжнай ініцыятывы "Форум" (г. Чаркеск) перадаў Камітэту БНФ "Дзеці Чарнобыля" 300 ўпаковак дэфіцытнага біястымулятару з антырадыяцыйным дзеяньнем. Лекі адпраўленыя ў шпіталі "зоны". Камітэт БНФ дзякуе цэнтру "Форум" за гэтую дабрачынную дапамогу.

# ІМЯ ІМ – ЛЕГІЁН

Валеры БУЙВАЛ



***Яшчэ доўга пасьля г.зв. "дзембеля" пячэ сэрцы нашых хлопцаў напаленае таўро: "Народ и армия едины", "Держи границу на замке", "Ты – начальник, я – дурак" . . . Пад напышлівымі лозунгамі, як заўсёды, жыве стракаты, багаты на нюансы вайсковы фальклор. Кожны з нас памятае фізіяномію сяржанта, які крычаў: "Не "нарад", а наряд! Не "ануча", а тряпка, бульбаш!"***

Для замежнай публікі савецкае войска – гэта "руская армія", "рускія перамаглі", "рускі характар". Ім трэба было б хоць разок пераначаваць у "рускай казарме", каб пачуць, акрамя ўзьбецкай або грузінскай, яшчэ грэцкую, фінскую, асірыйскую мовы. Але ня будзем спрачацца: паўнаўладна дамінуе (з самымі сьмешнымі акцэнтамі), безумоўна, "великий и могучий", афіцыйны ды афіцэрскі. Падпарадкуемся ж правілу, ня будзем перакладаць неперакладальныя падзагалоўкі.

## "ШИРОКА СТРАНА МОЯ РОДНАЯ. . ."
(некалі папулярная песьня)

З гонарам глядзіць homo sovieticus на сваю 1/6 частку зямлі. На ўсходзе яму махаюць картузамі амэрыканскія ды японскія ўзьмежнікі, на захадзе гукаюць фінскія ды польскія. Кожную восень ды вясну г.зв. "купцы" разьбіраюць нашых юнакоў ды вязуць на ўсе чатыры бакі. У выніку атрымліваецца класічна, як у добрыя рымскія часы – сірыйскія легіёны служаць на Рэйне, германцы стаяць ля пірамід. Браткі–славяне сякуць грузінскіх дзяўчат рыдлёўкамі, а цюркі да каўказцы падтрымліваюць парадак у самой Расеі. І ўсё б, здаецца, нічога. Але калі ўрэшце рускія мацяркі сталі сьцяной у аэрапартах Стаўрапаля ды Краснадара і выратавалі сваю моладзь, дык беларусы амаль аднагалосна змаўчалі, атрымаўшы ў знак падзякі цынкавыя труны з "вызваленага" Баку і "суцішанай" Арменіі. Ня будзем ужо чапаць афганскія, чэха-славацкія ды іншыя незагойныя раны, дзе беларусы зноў ды зноў падстаўлялі галовы пад самыя вялікія працэнты.

## "ПРАВИЛЬНО, БЕЛОРУССИЯ – ЭТО БУФЕР РОССИИ"
(малады курсант на пл.Перамогі)

Што было адказаць малайцу ў чырвоных пагонах? Нагадаць, як "за Родину, за Сталина" Беларусь лягла пад нямецкія танкі, і тыя буксавалі, пакуль пад Масквою рылі акопы? А мо' ўспомніць 1812 год, калі гэтак геніяльна адступалі па нашай зямлі? Нехта прабурчыць – усе гэта былое, гісторыя. Але ў апошнія месяцы буфэрная роля Беларусі небясьпечна актуалізавалася. Народныя рэвалюцыі ва Усходняй Эўропе сярод іншага запатрабавалі вывесьці з тэрыторыі ГДР, Чэха-славаччыны, Венгрыі ды часткова з Польшчы савецкія войскі, што стаяць там з 2-й Сусьветнай вайны, што раздушылі Бэрлінскае рабочае паўстаньне 1953, Венгерскую рэвалюцыю 1956, Пражскую Вясну 1968, ды і палякам намазолілі вочы.

Лічаць гэтыя часткі на 500 тысячаў вайскоўцаў, а яшчэ ж тэхніка, ракеты, абсталяваньне, сем'і. СССР просіць не прысьпешваць, маўляў, няма ўмоваў разьмясьціць такую махіну на 1/6 планэты, што належыць яму. А эўрапэйцы не бяз гумару адказваюць: вы ж уваходзілі ды займалі нас адну ноч!

На жаль, беларусам не да гумару. З усіх канцоў ідуць сігналы, што ўсю армаду хочуць паставіць на тэрыторыі нашай Рэспублікі. Напрыклад, ужо зь мінулага году пад Менск з Эўропы навезьлі столькі баепрыпасаў, што ў выпадку выбуху ад сталіцы нічога не застанецца. Мы зьвярнуліся па тлумачэньні да народнага дэпутата БССР, маёра Савецкай Арміі Уладзімера Грыбанава. Ён адказаў:

**– Ёсьць такія чуткі. На Беларусь будуць пераводзіць шматлікія вайсковыя часткі, разьмешчаныя ва Ўсходняй Эўропе. Можа, з Чэха-славаччыны і пойдуць на Ўкраіну. Але там ня тая сітуацыя, як у нас. Там моцны "Рух", зь ім давядзецца мець справу вайсковаму начальству. А на Беларусь лягчэй: "тут ціха". Спрадвечныя, высокія, чалавечныя якасьці беларускага народу: цярплівасьць, спакойны нораў – абернуцца супроць самога народу. Там, наверсе, так і разважаюць: беларусы ўсё сьцерпяць, прыстасуюцца неяк.**

**Я ўжо рабіў прапанову ўтварыць у Вярхоўным Савеце БССР камісію па сувязях з войскам ды вайскова-прамысловым комплексам. Вельмі важная, лічу, прапанова. Але калегі–дэпутаты не падтрымалі. А войска ж, вайсковыя прадпрыемствы робяць у Рэспубліцы што хочуць, яны ж бескантрольныя. Валодаюць лепшымі землямі, вытворчасьцю, працоўнай сілай. Часта адмоўна ўплываюць на экалогію ды здароўе людзей. Мы ж ведаем, як эксплуатуюць салдацкую працу. Жаўнеры працуюць на заводах, фабрыках, у сельскай гаспадарцы (не кажу ўжо пра будбаты, якія пачаліся яшчэ з "працоўных арміяў" Льва Троцкага). Іхняя праца не аплочваецца. Здавалася б, і добра – прынесьлі карысьць. Але ж разьлічваюцца з камандзірамі. Часьцей за ўсё натурай – бэтонам, іншымі будаўнічымі матэрыяламі. Потым глядзіш: гараж сабе пабудаваў, лецішча. Рукамі салдатаў.**

## "ДАЛЬШЕ КУШКИ НЕ ПОШЛЮТ, БОЛЬШЕ ВЗВОДА НЕ ДАДУТ"
(афіцэрская мудрасьць)

Амаль ніводная краіна сьвету не абыходзіцца без узброеных сілаў, нават у Ватыкане нясуць варту швэйцарскія выбранцы. Але ўжо даведзена, што такога разьдзьмутага, ненатуральных памераў для мірных часоў войска, як у СССР, няма нідзе.

Ул.Грыбанаў працягвае:

**– На Беларусі ўсе войскі з Усходняй Эўропы, можа, і не застануцца назаўсёды. Але Рэспубліка будзе выкарыстаная як перавалачны пункт, транзітны плацдарм. А шмат войска можа застацца і тут. Паўстане жыльлёвая, харчовая праблема. Тут з чарнобыльскіх раёнаў людзей высяляць трэба, а месца зойме войска.**

Колькасьць насельніцтва Рэспублікі рэзка падскочыць на 10–20%. Ва ўмовах харчовага ды жыльлёвага крызісу, з Чарнобыльскай бядой над народам – гэта натуральная дэмаграфічная катастрофа. Ці не замнога для беларусаў катастрофаў?!

## "НАШИ ЖЕНЫ – РУЖЬЯ ЗАРЯЖЕНЫ"
(салдацкая песьня 19 ст.).

Усё ж аднымі стрэльбамі не абмяжуешся. Жонкі вайскоўцаў – вядомыя змагары пабытовага фронту. Зноў Ул.Грыбанаў:

**– Афіцэр – не чужы, наш чалавек. Прыяжджае сюды зь сям'ёй. Яму далі загад. Кватэры няма, куды падзецца? Кіраўніцтва разьлічвае ўсё, як заўсёды, зь імпэрскіх пазіцыяў. Каб супрацьпаставіць людзей. Можа, я перабольшваю? Але ж лепш ня будзе, будзе горш. Узьнікнуць сур'ёзныя сацыяльна–эканамічныя праблемы.**

## "В КРАСНОЙ АРМИИ ШТЫКИ ЧАЙ НАЙДУТСЯ, БЕЗ ТЕБЯ БОЛЬШЕВИКИ ОБОЙДУТСЯ"
(зноў зь песьні)

Не, бязь беларуса ды Беларусі, відаць, не абысьціся. Нядаўна мы даведаліся, што палова стратэгічных ракетных базаў СССР знаходзіцца на тэрыторыі нашай Рэспублікі (як тут не прыгадаць лозунг балтаў "Кожнаму калгасу па ракетнай базе!"). Можа, хай бы сабе і стаялі. Але ў выпадку ядзернай вайны першы ўдар будзе накіраваны якраз на гэтую "грань дружеских штыков". Гэта значыць, на нас з вамі. І ад нас, ад Беларусі не застанецца нічога. Дык можа хай паставяць іх сабе ля крамлёўскай сьцяны – будзе больш надзейна?

Літва – незалежная, Латвія ды Эстонія прынялі законы аб вайсковай службе сваіх грамадзянаў толькі на сваёй тэрыторыі, ніякіх "Кушкаў". Арменія накіроўвае ўсіх сваіх прызыўнікоў на ліквідацыю вынікаў землятрусу. Можа настаў час павучыцца ў суседзяў па імпэрскай галеры? Нашыя юнакі замест таго, каб ахоўваць зэкаў у Карэліі або маршыраваць па Сібіры, маглі б узяцца за будаўніцтва жыльля ў чыстых раёнах Беларусі для чарнобыльскіх уцекачоў. Такому войску народ пакланіўся б у ногі.

Час з усёй вастрынёй ставіць пытаньне пра стварэньне беларускіх нацыянальных вайсковых адзінак. Але дзе там, калі крамлёўскія гаспадары вядуць з Усходняй Эўропы цэлую армаду ды разьмяшчаюць яе на тэрыторыі Рэспублікі. Можа таму, што ў блізкіх Вільні ды Рызе пульсуюць сэрцы адраджэньня народаў? Ня трэба і спрачацца з балтамі: калі што – удар будзе зь беларускай зямлі.

Нараджаюцца новыя думкі. Нядаўна сябра Управы Сойму БНФ Алесь Галькевіч выступіў з праграмай утварэньня на ўсёй тэрыторыі Беларусі бязьядзернай, дэмілітарызаванай зоны. Ня трэба суперлогікі, каб зразумець, што такое магчыма толькі ва ўмовах незалежнай Беларускай Рэспублікі, народнай, дэмакратычнай. І, вядома, вызваленыя сродкі пайшлі б на выратаваньне ад Чарнобыльскай навалы.

Нядаўна група народных дэпутатаў БССР ад дэмакратычнага блоку накіравала дэпутацкае запытаньне ў Прэзідыум Вярхоўнага Савету БССР пра колькасьць ды разьмяшчэньне войскаў і вайсковай прамысловасьці на тэрыторыі Беларусі. Ці дачакаемся адказу? Дарэчы, чаму яны не запыталі, за якое геройства міністра Язава ўзнагародзілі маршальскай зоркай?



Фота Уладзімера Панады.





Комікс Алеся Пятрыцкага.

**НАВІНЫ**

Друкарня "LIESMA".

Выданьне Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Нумар падрыхтавалі Валеры Буйвал, Вінцук Вячорка, Ірына Лазоўская, Алесь Ліпай, Зьміцер Пушкін, Юрась Рагуля, Алесь Суша (рэдактар), Валеры Сядоў. Афармленьне Кастуся Ашчанкі і Алены Зуевай. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і не вяртае. Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск–113, абанементная скрынка 327. Ахвотныя распаўсюджваць газэту могуць зьвяртацца па тэл. 44-35-61 (Зьміцер).

Заказ № 7. Наклад 30000. Цана 50 кап. Здадзена ў друк 14 чэрвеня 1990 г.